© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

26 верасня - 2 кастрычніка 1997 года

# Рэгіянальная газета

НАБЛІЖАЕЦЦА ШАХМАТНЫ ТУРНІР РЭГІЯНАЛЬНАЙ

№39 (127)

ТВ-старонка

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Новы конкурс

Рэдакцыя "РГ" пачынае конкурс "Фотамадэль рэгіёна". Да ўдзелу прымаюцца як здымкі прафесійных фатографаў, так і аматарскія.

Пераможцы атрымаюць прызы ад нашай газеты, будзе заахвочаная мадэль, якая набярэ найбольшую колькасць чытацкіх галасоў (па выніках вашых пісьмаў). На здымку Віктара Чапскага

*Лена: Смаргонь, 19 год, рост 161, вага 48; любімым мульцікам лічыць "Ружовую пантэру", увечары любіць адпачываць "па-амерыканску", а нелюбімых спраў у гэтую пару няма.*

## Патрабуюцца на работу

*СМАРГОНЬ.* Муляр (6), газаэлектразваршчык (5), слесар-рамонтнік (4), сталяр (5), цясляр (5), электрык (3), маляр-тынкоўшчык (5), машыніст маразільных аміячных установак (1), аператар станкоў з ЧПУ (3), галоўны бухгалтар (1), юрыст (1), плітачнік-абліцоўшчык (5).

**Тэл. для даведак 32130.**

*МЯДЗЕЛ.* Вадзіцель катэгорыі "Е" і кранаўшчык (2), даярка (4), трактарыст (5).

**Тэл. для даведак 55835.**

*АСТРАВЕЦ.* Інжынеры розных спецыяльнасцяў (4), галоўны бухгалтар (1).

**Тэл. для даведак 21708.**

*ВІЛЕЙКА.* Трактарыст (4), экскаватаршчык (2), сталяр (4), слесар-рамонтнік (1), электраманцёр (1), фрэзероўшчык (1), повар (1), муляр (3), газаэлектразваршчык (4), інжынер-механік (1), кладаўшчык (1).

**Тэл. для даведак 54113.**

## Работы хоць адбаўляй

*АСТРАВЕЦ. Начальнік МПМК-158 У. Родзь мае праблему - кадравую. Вялікі аб'ём работ патрабуе ўмелых рабочых рук, а тут катастрафічна не хапае высокакваліфікаваных спецыялістаў. Арганізацыі патрэбна каля 30 муляраў і цесляроў. Над праблемай у МПМК б'юцца штодня.*

- Уладкоўвацца да нас на работу людзі прыходзяць, - каменціруе становішча Уладзімір Родзь. - Але прыняць іх не можам. Уся справа ў тым, што ў многіх няма наогул прафесіі, іншыя прыходзяць пасля заканчэння школы ці вяртання з арміі. Заходзяць таксама тыя, хто ўжо ў нас калісьці працаваў, але быў звольнены за п'янства ці парушэнне дысцыпліны. Зразумела, што такіх людзей браць не хочацца. А што тычыцца высокакласных муляраў або цесляроў, то іх не задавальнае зарплата на нашым прадпрыемстве. Таму яны лічаць за лепшае ці працаваць на якой "шабашцы" ў суседа, ці едуць на заробкі ў Расію, Польшчу.

Зазначу, што кіраўніцтва арганізацыі шукае спецыялістаў і з дапамогай цэнтра занятасці. Сітуацыя цікавая і неардынарная: работы хоць адбаўляй, а людзей няма.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**Скандальчыкі**

## Прэтэндэнты на званне "Міс Міншчыны" ў адказ на пытанні журы маўчалі

*БАРЫСАЎ. Дом культуры. Кошт білета 30 тысяч. Поўная зала. Мэр горада падбадзёрвае канкурсантак, жадае ім перамогі. Журы на чале з народным артыстам РБ Віктарам Вуячычам з 15 дзяўчат вылучае лепшую. Нашы - Іна Каханоўская, Святлана Каралевіч, Аксана Кузьміч - "міскі" (маленькія міс) Маладзечна, Маладзечанскага раёна, Вілейкі не ўвайшлі нават у шасцёрку мацнейшых на абласным конкурсе прыгажунь "Міс Міншчына". Валожын і Мядзел падобных конкурсаў пакуль не праводзілі, таму на вобласць не прыехалі. Прадбачліва.*

*Заканчэнне на 6-й стар.*

## Прытулак для пенсіянераў

*МАЛАДЗЕЧНА. Па дадзеных аддзела інфармацыі гарвыканкома, горад займае 3 месца ў вобласці (пасля Салігорска і Барысава) па колькасці атрымальнікаў пенсій. Сярод іх 638 чалавек, якім за 80 гадоў.*

Амаль 19 тысяч пенсіянераў у сярэднім атрымліваюць крыху больш за мільён рублёў кожны. Мінімальны памер у 591 тысячу маюць больш за паўтары тысячы жыхароў.

Органы сацыяльнай абароны ад пачатку года выдзелілі 328 бясплатных пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

**Іншыя матэрыялы, прысвечаныя Дню пажылых людзей, чытайце на 3-й стар.**

**Навіны**

## Беларусы абышлі

*ВІЛЕЙКА. Колькасць беларускамоўных класаў штогод павялічваецца. Сёлета з 224 класакамплектаў - 118 беларускамоўныя.*

Бацькі першагодкаў скарысталі магчымасць выбару мовы навучання на карысць роднай. Сёлета працуюць 12 "беларускіх" і 11 "рускіх" першых класаў. Вось толькі падручнікаў не хапае ні тым, ні іншым.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Пагранічнікі на бульбе

*АСТРАВЕЦ. Традыцыйна на дапамогу калгаснікам прыходзяць гараджане і школьнікі. А вось у калгасе "Савецкая Беларусь" на бульбяных палетках завіхаюцца вайскоўцы з Астравецкай пагранкамендатуры.*

Трыццаць яе работнікаў паказалі, што ўмеюць не толькі ахоўваць мяжу, але і бульбу капаць. За ўсе дні работы яны накапалі амаль сто тон.

Разлічваецца калгас з пагранічнікамі за іх працу натурай. 10 працэнтаў ад накапанай бульбы ідуць у Смаргонскі пагранічны атрад для ўласных патрэб.

- Атрымліваецца,- гаворыць камендант Астравецкай пагранкамендатуры А. Лапо,- што адным стрэлам забіваем двух зайцаў адразу - і калгасу дапамагаем, і салдацкую кладоўку напаўняем.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Жэтоны, карткі

*СМАРГОНЬ. З 22 верасня тэлефоны-аўтаматы ў горадзе абсталяваныя пад выкарыстанне пластыкавых электронных картак.*

Фінансаванне забяспечыла прадпрыемства "Гроднаабллэлеком". Па словах начальніка вузла сувязі І. Добрука, новаўвядзенне дазволіць пазбегнуць падробак, што часцяком сустракаліся пры выкарыстанні жэтонаў.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

**РЭКЛАМАДАЎЦЫ!**

Змяніўся разліковы рахунак рэдакцыі "РГ". **Мы будзем рады прыняць вашыя плацяжы на разліковы рахунак №3012101960012 у аддзяленні Белзнешэканамбанка у Маладзечне, код 211.**

ТОЕ, ШТО НАС ЯДНАЕ
Рэгіянальная газета
падпісная цана
на месяц - 8 тыс.руб.;
на квартал - 24 тыс.р.

РЭКЛАМА

ДМП ·ТИНАЛ·
РАМЯНІ КЛІНАВЫЯ
САЛЬНІКІ
МЕТАЛАРЭЖУЧЫЯ і ВЫМЯРАЛЬНЫЯ інструменты
СЛЯСАРНАЕ і САНТЭХНІЧНАЕ абсталяванне
ТЭЛ. ФАКС (01773) 32468 32437

ЗАПЧАСТИ К АВТОМОБИЛЯМ
МАЗ
Тел. в Сморгони 2-23-96
◆ силовые агрегаты
◆ двигатели и КПП
◆ тормозная и топливная аппаратура
◆ электрооборудование
◆ э/фильтрующие
◆ рулевое управление
◆ ремни приводные
◆ рамы
◆ кабины
◆ детали подвески
◆ крылья
◆ радиаторы
◆ валы карданные
◆ рессоры
◆ диски сцепления
◆ подшипники
◆ глушители
◆ стекла лобовые
◆ баки топливные
◆ любые автошины и аккумуляторы

ПОДШИПНИК-ЦЕНТР
Поставки под производство и ремонт
● ПОДШИПНИКИ
● РЕМНИ клиновые
● ЭЛЕКТРОГАЗОСВАРОЧНОЕ оборудование
● СПЕЦОДЕЖДА, обувь
Принимаем на реализацию
Гибкая система скидок
Возможны доставка, бартер
г. Молодечно В. Гастинец 143/322
тел (01773) 71136 факс (01773) 60383

Реализуем со складов в Сморгони и Минске
✦ соду кальцинированную
✦ соду каустическую
✦ кальций хлористый
✦ кислоту борную
✦ магний сернокислый
✦ хлорную известь
(017) 2685391, 2685202

© PDF: Kamunikat.org 2019


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Трагедыя яўрэйскага народа

# Ахвяры СД

*Вольга КОЛАСАВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

*Працяг. Пачатак у №№ 36-38.*

**З пратакола допыту сведкі: г. Вілейка 20 жніўня 1970 г. Гобеца Георгія Георгіевіча, 1921 г. нарадж., ураджэнца г. Полацка, пражыв. г. Вілейка, пл. Свабоды, д. 22.**

...Пасля таго, як немцы акупавалі горад Вілейка, у горадзе знаходзілася вельмі многа грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, якія жылі ў розных частках горада. Іх было ў Вілейцы звыш за 2000. Першы час акупацыйныя ўлады выкарыстоўвалі яўрэйскае насельніцтва горада на разнастайных фізічных чарнавых работах. Да канца 1941 г. іх пачалі зганяць у спецыяльна адведзеныя ім для жыхарства месцы ў горадзе, у так заныя гета. Так, я ведаю, што яўрэйскія гета размяшчаліся ў раёне гарадской турмы і будынка турмы, у раёне чыгуначнага вакзала і ў раёне цэнтра горада, дзе раней знаходзілася яўрэйская сінагога. Усё яўрэйскае насельніцтва, па распараджэнню акупацыйных улад, насіла нашытыя на адзенне адметныя знакі ў выглядзе шасціканцовых зорак жоўтага колеру. Абыходзіліся немцы з яўрэйскім насельніцтвам па-зверску, іх без усялякіх прычын збівалі, здзекваліся з іх. Ім нават не дазвалялі хадзіць па тратуарах. Рухацца яны маглі толькі па праезнай частцы вуліц. Праз некалькі месяцаў пасля таго, як яўрэйскае насельніцтва было сагнана ў гета, немцы пачалі праводзіць у горадзе масавыя расстрэлы яўрэяў. Расстрэлы пачаліся вясной 1942 г. і доўжыліся на працягу ўсяго года, а апошнюю партыю грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці з ліку спецыялістаў немцы расстралялі пры адступленні. Сведкам расстрэлу яўрэйскага насельніцтва я не быў, аднак неаднаразова чуў ад жыхароў горада Вілейка пра тое, што немцы праводзілі масавыя расстрэлы ў раёне турмы і будынка СД, дзе пасля расстрэлу трупы спальваліся. Я часта чуў вясной і летам 1942 г. страляніну з аўтаматычнай зброі ў раёне турмы, а таксама бачыў, як адтуль курэў густымі клубамі дым. У гэты час па ўсяму гораду разносіўся злавесны смурод, дыхаць рабілася цяжка. Масавыя расстрэлы грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці праводзіліся на Лысай гары, у раёне вёсак Макаўе і Ізбіна, размешчаных у кіламетрах двух ад горада Вілейкі. Расказвалі жыхары г. Вілейка, што ў расстрэлах яўрэйскага насельніцтва актыўны ўдзел прымала Вілейскае СД. Яно, па сутнасці, кіравала гэтымі расстрэламі.

У перыяд маёй службы ў СД я неаднаразова бачыў, як аднекуль прывозілі па адным і групамі мірных грамадзян у Вілейскае СД. Пасля допытаў іх выводзілі збітых, у крывападцёках, і адводзілі за турэмную сцяну, адкуль гучалі ў хуткім часе стрэлы...

*Заканчэнне будзе.*



*Здавалася б, Вілейка ў часе вайны жыла звычайным жыццём. Віхуры ж смерці не абышлі і святароў. На фота з архіваў КДБ Свята-Марынская царква ў Вілейцы падчас вайны.*

Працяг тэмы

# Ля турэмнай сцяны

***Друкуемыя у "РГ" матэрыялы па асуджаных у асобай нарадзе па УНКУС Вілейскай вобласці навялі на думку, што ўсе асуджаныя не маглі не прасці праз камеры і карцэры існуючай у той час Вілейскай турмы, якая мае сваю жудасную гісторыю.***

***Прапаную артыкул пра малавядомыя факты існавання гэтай камяніцы.***

Старая легенда вуснамі пакаленняў, а затым і старонкамі некаторых кніг паведамляла, што пасля таго, як у 1795 годзе, па ўказу расійскай імператрыцы **Кацярыны II**, Вілейка стала павятовым горадам, то яна неўзабаве прыехала сюды, пасадзіла некалькі бяроз на названым яе імем шляху і залажыла першы камень у падмурак будучага астрога.

На самой справе толькі ў 1848 быў выдадзены Высачайшы ўказ на будаўніцтва ў Вілейцы новай каменнай турмы замест старой непрыгоднай драўлянай на 100 мест. Новая камяніца з лімітам на 350 чалавек была закончана ў 1863 годзе і неўзабаве прыняла сваіх першых арыштантаў - паўстанцаў **Кастуся Каліноўскага**. Размяшчалася яна на былой Нароцкай вуліцы паміж горадам і прыватнымі гарадскімі могілкамі. Вакол турмы ўзвышалася масіўная каменная агароджа. У тым змрочным будынку сцены небывалай таўшчыні, столі нізкія і зводныя, камеры-адзіночкі былі вельмі цесныя і шурпатыя. На невялічкіх вокнах— краты.

Цікавы яшчэ той факт, што спачатку на тым высокім месцы, дзе размясцілася турма, планавалася будаўніцтва касцёла, але хваляванні народных мас прымусілі ўлады памяняць задумы.

Вязнямі Вілейскай турмы з'яўляліся як асобы крымінальнага свету, так і палітычныя. Перыядамі ў сценах астрога было вельмі цесна. Гэта гады першай рускай рэвалюцыі 1905-1907 гадоў, калі ў турму дастаўляліся арыштанты Даўгінаўскага бунта, агітатары, распаўсюджвальнікі забароненай літаратуры, праклямацый з Куранца, Смаргоні і іншых месцаў. Адбывалі тут пакаранне і сем матросаў з мяцежнага браняносца "Пацёмкін". Прозвішча двух вядомыя— **Іваноў і Голікаў**. Нашчадкі апошняга і цяпер жывуць у Вілейцы.

У гады першай сусветнай вайны тут размяшчаўся корпус 10-й арміі Заходняга фронту. У 1917 годзе сюды прыязджаў вярхоўны галоўнакамандуючы часовага ўрада **А. Керанскі** з мэтай угаварыць на мітынгу салдат працягваць вайну да пераможнага канца, на што многія адказалі за кратамі.

Новы ўздым нацыянальна-вызваленчай барацьбы адбыўся на Вілейшчыне ў гады белапольскай акупацыі 1921-1939 гадоў. Паўсюдна пачалі арганізоўвацца рознапалітычныя гурткі, мясцовыя арганізацыі Таварыства Беларускай Школы, Беларускай сялянска-рабочай грамады, ячэйкі КПЗБ.

Паліцыя неаднаразова арыштоўвала і зняволькала ў турме такіх змагароў за народнае шчасце, сярод іх былі і ўдзельнікі выступлення 1935 г. Нарачанскіх рыбакоў.

Актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе за незалежнасць Заходняй Беларусі бралі дэпутаты польскага сейма 1928 года **Ян Гаўрылік** з Калодчына і **Флягонт Валынец** з Вілейкі, за што былі асуджаны пілсудчыкамі на доўгія гады зняволення. У 1932 годзе абодва ў выніку абмену палітвязняў апынуліся ў СССР, але па надуманай справе за прыналежнасць да Беларускага нацыянальнага цэнтра былі арыштаваныя органамі НКУС і расстраляныя ў 1937 годзе на Салаўках.

У той час турэмныя камеры №17 і 18 былі адведзены для палітзняволеных. У 1934 годзе ў іх адбывалі пакаранне **А. Садоўскі** з Вілейкі, а таксама вядомы дзеяч рэвалюцыйнага падпольнага руху Заходняй Беларусі паэт **Валянцін Таўлай**. Іх лёс у розныя гады разадзялілі такія паэты і пісьменнікі як **Алесь Дубровіч, Ганна Новік** (апошнія перад вайной працавалі ў газеце "Вілейская праўда"), **Андрэй Капуцкі** і іншыя.

17 верасня 1939 года прынесла збаўленне вязням Вілейскай турмы, але доўга яна не пуставала. З'явіліся новыя катэгорыі зняволеных - "ворагі народа", "контррэвалюцыянеры" і з іншымі сфабрыкаванымі фармулёўкамі.

Асаблівае месца ў беларускай гісторыі займае **Антон Луцкевіч**, лінгвіст, гісторык, грамадскі і палітычны дзеяч. Ён быў старшынёй Рады народных Міністраў і міністрам замежных спраў абвешчанай 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.30 верасня 1939 года быў арыштаваны па абвінавачванню ў контррэвалюцыйнай барацьбе і ўтрымліваўся пд следствам у Вілейскай турме. Сляды яго згубіліся ў час эвакуацыі вязняў у чэрвені 1941 года.

Падобнае напаткала і першага рэдактара "Нашай нівы", "Сахі", "Лучынкі" і іншых зборнікаў, сенатара польскага сейма **Аляксандра Уласава**. Апошні час ён жыў у в.Мігаўка каля Радашковічаў. 6 кастрычніка 1939 года быў арыштаваны і 13 месяцаў праседзеў у Вілейскай турме. Нават хадайніцтва Я. Коласа, Я. Купалы і З. Бядулі да першага сакратара ЦК КПБ(б) П. Панамарэнкі не дапамагло. Памёр на этапе ў Сібіры.

Арыштоўваліся ў Вілейцы і сядзелі тут у астрозе публіцыст, філосаф-эстэтык **Уладзімір Самойлаў**, прафесар, аўтар многіх кніг па гісторыі Вілейшчыны і Мядзельшчыны **Францішак Сяліцкі**, які цяпер жыве ў Польшчы, а нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Мікуліна каля Даўгінава.

У адной з сваіх кніг Ф. Сяліцкі апісвае жудаснае ўтрыманне арыштаваных у Вілейскай турме ў перыяд 1939-41 гадоў. Камеры былі перапоўненыя, есці давалі слаба, амаль паўгода не было ні мыцця, ні дэзінфекцыі. Сярод арыштантаў можна было бачыць адвакатаў, лекараў, суддзяў, святароў, нават быў рэктар Віленскага ўніверсітэта. Далей ён расказвае пра дарогу смерці ад Вілейкі да Барысава, дзе з 24 па 27 чэрвеня 1941 года загінула многа зняволеных. Пра гэтую эвакуацыю можна яшчэ прачытаць у кнігах **Мельхіёра Ваньковіча** "Гісторыя сям'і Каржаноўскіх", Гданьск, 1981 г., **Я. і І. Гросаў** "На нялюдскай зямлі", Варшава, 1990 г., "Злачыннасці катынскія ў свеце дакументаў", Лондан, 1982 г. і іншых выданнях.

У 1939-40 гадах у Вілейскай абласной "Сялянскай газеце" працавала вядомая дзяячка беларускай эміграцыі, паэтка, прадстаўніца роду, які па жаночай лініі даў свету М. Лермантава, нядаўна памерлая ў ЗША **Наталля Арсеннева**. Тут яна была арыштаваная і сасланая з дзецьмі ў Казахстан.

Сядзеў у Вілейскай турме яшчэ адзін прадстаўнік беларускай эміграцыі, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1970-1982 гадах **Вінцэнт Жук-Ґрышкевіч**. Нарадзіўся ён у 1903 годзе ў мястэчку Будслаў Вілейскага павета, вёў вялікую грамадскую і літаратурную работу. У 1942 годзе па дамоўленасці польскага эміграцыйнага ўрада ў Лондане са старшынёй Савета Міністраў СССР В. Молатавым быў, як і іншыя польскія грамадзяне, выпушчаны з лагера і ўступіў у польскую армію Андэрса.

Вось якія ўспаміны пакінуў ён пра Вілейскую турму: "Выклікалі мяне на допыт шмат разоў. Вяліся допыты вельмі брутальна, білі па твары, па галаве, прыстаўлялі да галавы рэвальвер. У час аднаго з гэтых допытаў мяне збілі так, шо я самлеў, непрытомнага, мяне занеслі ў карцэр, дзе трымалі тры дні. Гэта была вельмі цяжкая зіма 1939-40 гадоў, а карцэр не абагравалі".

Цікавы факт расказаў мне жыхар в. Вязынь **І. Усціновіч**. Яго родны дзядзька у польскай арміі атрымаў знявечанне і атрымліваў за гэта пенсію. Пасля ўз'яднання з БССР напісаў на імя Сталіна ліст, які заканчваў такімі радкамі: "Товарищ Сталин! Дай ответ, будет мне пенсия или нет?" - за што і быў зняволены. Пасля эвакуацыі арыштантаў на ўсход, маці шукала яго сярод забітых у двары турмы, у бульбяных ямах каля Касуты, але безвынікова. След яго згубіўся назаўсёды. Такі лёс напаткаў і многіх іншых вязняў.

Фашысты працягвалі тут свае крывавыя справы. На пачатку 50-х гадоў турма была ліквідавана.

Гісторык І. Кузняцоў піша, што першыя раскопкі на тэрыторыі былой турмы вяліся ў лістападзе 1994 г. пры будаўніцтве новага корпуса анкалагічнага дыспансера, але яшчэ ў 1966 г. пры правядзенні тут земляных работ адкопваліся чалавечыя косткі.

Для многіх вязняў, ні ў чым не вінаватых людзей, турэмны двор з'явіўся апошнім жыццёвым прытулкам. Сёння цяжка канстатаваць, ахвярамі чыіх рук яны сталі,- органаў НКУС ці нямецка-фашысцкага рэжыму, але ўсе яны людзі і заслужылі таго, каб былі ўстаноўлены іх імёны, а астанкі пачалавечы пахаваны.

*Анатоль РОГАЧ.*

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



**Да дня пажылых людзей**

# Я беларуска!

*ВІЛЕЙКА. Марына Падшыбякіна жыве ля плошчы ў аднапакаёўцы. Дачка ў Наваполацку, сын у Маладзечне. Па-магчымасці наведваюць матулю. Але, у асноўным, састарэлая жанчына застаецца адна са сваімі ўспамінамі.*

- З маёй біяграфіі можна зрабіць тэлесерыял у 20 серый, - гаворыць яна. - Адразу цяжка вырашыць, хто я па нацыянальнасці. Бацькі з Украіны, нарадзілася ў Казахстане, скончыла медыцынскі інстытут у Кіргізіі, доўгі час жыла сярод рускіх. І тым не менш, я - беларуска!

Тады маладзенькага ўрача-венеролага Масква накіравала на вызваленую тэрыторыю, у Беларусь. Прапанавалі некалькі гарадоў, на выбар.

- З дзяцінства памятаю, што на школьных сшытках значылася: Гомельская вобласць, г. Добруш, фабрыка "Герой працы". Туды і паехала. Забруджанасць на венерычныя захворванні была страшэзная. На думку кадравых афіцэраў, падчапіць ганарэю - быццам палец наколоць іголкай. Пройдуць праз горад салдаты на фронт, у тыл - з розных куткоў дасылаюць інфармацыю: у вас рассаднік інфекцыі, утаймуйце. Быў нават "штатны" распаўсюджвальнік - жанчына, што жыла ля прадпункта. І "да", і "пасля" салдаты не ведалі яе імені.

З рознымі жыццёвымі цяжкасцямі прыйшлося сутыкнуцца маладому ўрачу. Даводзілася начаваць у тыфозным бараку, ехаць па чыгунцы ў вагоне са штрафнікамі. Бачыць жудасны бок вайны.

- У Брэсце працавала хірургам. Прывезлі маленькага хлопчыка, які падарваўся на нямецкіх мінах. Рану і зашыць немагчыма - поўнасцю вырваны кавалак грудзей. Сэрца білася напавераху, можна было дакрануцца да яго рукою.

У вілейскай бальніцы Марына Савічна адпрацавала 38 гадоў. Яе ведаюць, ёй удзячныя, паважаюць, успамінаюць. Са старых рэчаў у пакоі крэсла-качалка, на ім любіў сядзець муж, цяпер з задавальненнем сядзіць, калі прыязджае ў госці, унучка. Прыгожая дзяўчынка, знешне падобная на бабулю ў маладосці. Таксама хоча стаць урачом, цяпер вучыцца на другім курсе Наваполацкага медвучылішча.

**Васіль САВІЦКІ.**

## Што нясе чысло 13?

*ВІЛЕЙКА. 104 гады адзначыла Вера Стрэж, жыхарка вёскі Стражы Куранецкага сельсавета.*

Гавораць, што чысло 13 прыносіць няшчасце. Менавіта трынаццатага нарадзілася доўгажыхарка Вілейшчыны. Усё жыццё яна пражыла ў адной вёсцы. Цяпер у сваім доме жыве адна і абыходзіцца без дапамогі.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

З 29 верасня па 1 кастрычніка ў маладзечанскім шахматным клубе "Папараць" **пройдзе шахматны турнір**, прысвечаны Дню пажылых людзей. Запрашаюцца пенсіянеры.

## У пошуку

*СМАРГОНЬ. Прамысловыя прадпрыемствы горада вядуць актыўны пошук заказаў і патэнцыяльных партнёраў не толькі ў межах краіны, але і па-за імі.*

22 верасня дэлегацыя ў складзе дырэктара агрэгатнага завода **І. Рамановіча** і галоўнага інжынера завода аптычнага станкабудавання **А. Крысіна** адправілася ў Фінляндыю з мэтай арганізацыі сумеснай вытворчасці адпавядаючых сучасным патрабаванням збожжасушылак і збожжаўборачных камбайнаў.

**Валянціна ВЕШТАРТ.**

# Відэамагнітафонам па злодзеях

*МАЛАДЗЕЧНА. Днём па вуліцы Міру злодзеі залезлі на балкон першага паверха. Вынялі шкло і залезлі ў кватэру. Разжыліся 700 доларамі ЗША, залатымі ўпрыгожваннямі.*

*Жанчына, што жыве па Вялікім Гасцінцы, аддала знаёмым ключы ад кватэры. Маўляў, дапамажыце занесці купленае ў магазіне. Гаспадыня не далічылася 2 тысяч долараў.*

*На Лясных залезлі ў акно прыватнага дома. На п'янага гаспадара, які спаў, увагу не звярталі, вынеслі тэлевізар.*

За сонечныя дні (з мая па жнівень) зарэгістравана 80 крадзяжоў з кватэр. "Спектр" злачынцаў - ад рабочых, якім тэрмінова трэба выпіць, да прыватных прадпрымальнікаў. У залежнасці ад сацыяльнага паходжання, існуюць і розныя метады пранікнення ў кватэры. Самы прымітыўны, але распаўсюджаны, - калі дзверы проста выбіваюць. Дастаткова ведаць месца, у якое біць. Пэўнай тэхнікі патрабуе адціснанне замка.

Ну, а працуюць без шуму, падборам ключоў, прафесіяналы. У горадзе іх няшмат. "Скалапазам" патрэбная добрая фізічная падрыхтоўка, каб з даху залезці ў фортку апошняга паверха.

Сярод злачынцаў больш за палову раней судзімыя. Працэнтаў 30 - непаўналетнія.

- Мы, быццам сезонныя работнікі, - гаворыць **Віктар Івашанка, намеснік начальніка аддзела крымінальнага вышуку**, - пасля лета, да прыкладу, у асноўным, будуць "чысціць" падвалы. Без работы не сядзім.

На думку міліцыянераў, каб потым не ліць слёзы, трэба здаваць жыллё пад ахову. Па прыкідках, кошт такіх паслуг за 5 год будзе роўны відэамагнітафону сярэдняга класа.

Ну а так, звычайныя парады: зачыняць форткі, ставіць не менш за 2 замкі на дзверы, папярэджваць суседзяў на час ад'езду...

Злодзеі не заўсёды ўяўляюць, што іх чакае ад 5 да 15 год пазбаўлення волі. А скупшчыкаў крадзенага - да 5 год. І тым не менш, лічбы гавораць за сябе: сёлета зарэгістравана 138 крадзяжоў з кватэр.

**Васіль САВІЦКІ.**

**Прэм'ера**

## Шчасце, калі на душы восень

*МАЛАДЗЕЧНА. У фае абласнога драмтэатра 4-5 кастрычніка адкрываецца чарговы тэатральны сезон і выстаўка настаўніцы (13 год работы ў СШ №1) і прафесійнай мастачкі Алены Уладыкі.*

18 работ Алены ўтвараюць серыі "Аўтапартрэты", "Мая вёска", "Фальклор".

- Найбольш значны для мяне "Партрэт бабулі Крыстыны", вельмі блізкага мне чалавека. 12 гадоў яна пражыла ў Францыі. Там зарэгістравала шлюб, нарадзіла маю маці. Памерла на Радзіме (пад Маладзечнам) ва ўзросце 93 год.

А. Уладыка працуе ў музычным вучылішчы імя Агінскага на аддзяленні прыкладнога мастацтва. Усё, што піша, прапускае праз сябе. Можа, таму і не малюе на продаж.

- Выбачайце, - гаворыць яна, - але не атрымліваюцца ў мяне бярозкі ў сонечным святле. Выходзіць восень. І гэта пры тым, што я шчаслівы чалавек.

**Віця КАРАНІК.**

## Калі ласка, у тэатр

*МАЛАДЗЕЧНА. Абласны драматычны тэатр падрыхтаваў і прадстаўляе на прагляд шэраг спектакляў бягучага рэпертуара.*

Акрамя гэтага тут могуць арганізаваць навагоднія святы для дзяцей, сустрэчы з артыстамі, мастакамі і рэжысёрамі тэатра, дапамогуць арганізаваць і правесці прафесійныя святы калектываў навучальных устаноў, прадпрыемстваў. У фае тэатра часта праходзяць выстаўкі мастакоў, музычныя гасцёўні.

Вы заўсёды можаце заказаць для сябе і вашых гасцей святочны стол у кафэ тэатра ў дні спектакляў, падрыхтуюць тут і дні адпачынку калектываў навучальных установ, прадпрыемстваў і арганізацый рэгіёна.

**Галіна КАПУСЦЯНСКАЯ,**
**намеснік дырэктара драмтэатра.**

**Сусветны дзень турызму**

# Мужчына каштуе 29 тысяч

*У Мінску, Маладзечне і Вілейцы мы "вылоўлівалі" турыстаў, каб даведацца аб самым дарагім (па грошах) маршруце, маляўнічым месцы і іншых тонкасцях гэтага спорту і адпачынку.*

1. Самы дарагі (па грошах) маршрут Майкоп-Дагамыс (Каўказ). 14 дзён на нагах каштуе 3 мільёны беларускіх рублёў з чалавека.

2. Самае маляўнічае месца - заказнік "Блакітныя азёры" ў Беларусі, Даліна гейзераў на Камчатцы.

3. Самы стары турыст, які дагэтуль не кідае свайго захаплення,- **Расціслаў Раманко**, 1936 г. н., былы дэкан Беларускай акадэміі мастацтваў.

4. Лепшыя турысты ў Вілейцы - **Мікалай Багураў, Арнольд Касцюшэўскі**, Маладзечне - **Сяргей Бялкоў**.

5. Самы малады турыст - **Іван Кісель** з Мінска. Сёлета 5-гадовы хлопчык хадзіў у катэгарыйны паход на Заходні Каўказ.

6. Самы "цяжкі" груз - два агуркі - нёс у 1981 годзе маладзечанец **Рафаловіч**.

7. Самыя вясёлыя турысты з маладзечанскага турклуба "Пілігрым" (сёлета клуб адзначыў 20-годдзе):

- у 1990 г. на аўкцыёне рулон туалетнай паперы з чорнай скрыні быў прададзены за 12 руб. (сённяшнія 136 тысяч).

- у 1996 г. упершыню за гісторыю краіны прайшоў аўкцыён па продажы мужчын-турыстаў. Педыятр Ала Пастарнак набыла Сяргея Ракіту за 29 тысяч рублёў.

**Запісаў Віця КАРАНІК.**

**Крымінал, здарэнні**

## Жалобны знак

*ВІЛЕЙКА.*

- У лесе ля мястэчка Ілья знойдзены пашкоджаны ад часу труп мужчыны. Прычыны смерці высвятляюцца.
- На гэтым тыдні пачаўся суд над бацькам, які жыў з роднай дачкой, як з палюбоўніцай. Згвалціў яе, калі той было 12 гадоў. Судова-медыцынская экспертыза прызнала бацьку-гвалтаўніка псіхічна здаровым.
- Па вул. Лаўрыновіча незвычайная спрэчка магла скончыцца бойкай. Незадоўга да канфлікту пажылы мужчына ехаў на роварах, і раптоўна ў яго спынілася сэрца. Мужчыну пахавалі, а на месцы здарэння родныя прывязалі да плоту кветкі і жалобную стужку. Гэта не спадабалася гаспадыні - насупраць вокнаў жалобны знак. Адвязала яго і выкінула. Пасля гэтага сыны памерлага і прыехалі высвятляць адносіны.
- Вілейчанін працаваў у Якуціі. Дадому вяртаўся па чыгунцы з грашыма. Што здарылася ў цягніку - высвятляе следства. Бо беларус трапіў у рэанімацыю Маскоўскай клінікі. Там і памёр. Заробак, безумоўна, знік.

**Марына ТАЧЫНСКАЯ.**

## Прынцыпы на мяжы

*АСТРАВЕЦ. Тавар будуць прадаваць там, дзе за яго выкладуць найбольшую суму грошай. Напэўна, гэтымі прынцыпамі карыстаўся грамадзянін Літвы Юрый Паўлюкойць.*

Прыдбаўшы ў нашай краіне 283 кілаграмы каляровых металаў і дзве іконы, ён спрабаваў іх пераправіць у пункце пропуску Катлоўка. Але прыхаваны кантрабандны тавар у аўтамабілі ВАЗ-2107 быў выяўлены і перададзены ў мытню. Цяпер спецыялісты ўстанаўліваюць кошт ікон.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Калі ўзнікне жаданне

*АСТРАВЕЦ. Днямі супрацоўнікамі пагранкамендатуры ў адным з цягнікоў знойдзена 367 грамаў макавай саломкі, а ў другім - 8 блокаў цыгарэт "Магна" і 39 "Монтэ-Карла".*

Тавар перадалі ў мытню. А гаспадароў вышэйназваных тавараў ля іх не знайшлося. Мажліва, яны дзесьці прыснулі і забыліся паведаміць аб сваім набытку. Праўда, не ўсё для іх безнадзейна страчана, бо ёсць магчымасць забраць тавар назад. І калі ўзнікне такое жаданне, то за падрабязнасцямі лепш звяртацца ў пагранкамендатуру. Там чакаюць.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Без суседзяў, як без ног

*ВІЛЕЙКА. Пенсіянер з Людвінова Мар'ян Куцько зноў сам сябе падпаліў.*

Як і два гады таму, лёг з цыгарэтай адпачыць. І тады, і цяпер Мар'яна вынеслі з хаты суседзі. Пакуль церпіць толькі маёмасць.

**Ірына БУДЗЬКО.**

## Ты мне ў вока, а я цябе за краты

*АСТРАВЕЦ. Прыкладна па такім сцэнарыі разгортваліся падзеі ў вёсцы Варона.*

Адзін жыхар гэтай вёскі збіў другога проста на вуліцы, а той звярнуўся ў міліцыю. Вядзецца следства.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

